8 лістапада 1994 г.
Аўторак
№ 119 (13836)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*






*Фота Сяргея БРУШКО.*

## Кур'ер "ЧЗ"

### ЧЫНОЎНІКАЎ СТАЛА МЕНШ

*З 1 лістапада на трэць скараціўся апарат Гродзенскага аблвыканкама.*

Рашэнне прынята ў адпаведнасці з указам прэзідэнта. Гэта другое па ліку скарачэнне штатаў установы ў бягучым годзе.

**БЕЛІНФАРМ.**

### МЕДЫКІ ЕДУЦЬ У БЕЛАСТОК

*Сёння беларускія медыкі ўпершыню накіраваліся на II Міжнародны кірмаш "FAR-MEDIC'94", які прадзіць у Беластоку.*

Іх паездка стала магчымай дзякуючы Цэнтру падтрымкі прадпрымальніцтва "Цэнтр-XXI стагоддзе", а таксама пры дапамозе польскага Цэнтра кірмашоў і садзейнічання ўсходняму рынку. У беларускую дэлегацыю ўвайшлі каля 30 урачоў-практыкаў — хірургаў, тэрапеўтаў, стаматолагаў, гінеколагаў, педыятраў. Сярод іх — работнікі Міністэрства аховы здароўя, галоўныя ўрачы раённых бальніц, радавыя спецыялісты. Прычым, самае большае прадстаўніцтва забяспечана ўрачам Гомельскай вобласці (14 чалавек). У паездцы прымаюць удзел і спецыялісты Беларускай гастраэнтэралагічнай асацыяцыі, медыцынскіх фірм і вытворчых аб'яднанняў. Беларускія дэлегаты пазнаёмяцца на кірмашы з фармацэўтычнай прадукцыяй яго ўдзельнікаў, наведаюць спецыялізаваныя семінары, а таксама абмяркуюць з вытворцамі магчымасці паставак у Беларусь лекаў і медыцынскага абсталявання, стварэння ў рэспубліцы сумеснай медыцынскай вытворчасці.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### ДАПАМОГ ФОНД СОРАСА

*Імя гродзенскага вучонага, загадчыка лабараторыі Інстытута біяхіміі АН Рэспублікі Беларусь Міхася Бушмы стала вядома далёка за межамі рэспублікі. Фонд Сораса падтрымаў яго даследаванні па вывучэнню ператварэння лекаў у арганізме чалавека і фінансаваў паездку ў Парыж на навуковую канферэнцыю па гэтай праблеме.*

Даклад навукоўца выклікаў вялікую зацікаўленасць у медыцынскім свеце. Акрамя таго, Міхась Бушма атрымаў адразу два гранты фонду Сораса. Зараз вучоны рыхтуецца да ўдзелу ў другім туры конкурсу на лепшы падручнік па экалогіі.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### АБЛВЫКАНКАМ ЗАСЛУХАЎ... ЗІМУ

*І віцебскае абласное кіраўніцтва засталося заклапочаным. Няпростая сітуацыя чакае зімой вялікія гарады, яшчэ больш складанае становішча ў невялікіх пасёлках, дзе мясцовы бюджэт не дае магчымасці набыць неабходную колькасць паліва.*

Таму гарадскім пасёлкам Коханава, Обаль і Бігосава вырашана выдзеліць 600 мільёнаў рублёў з пазабюджэтнага фонду вобласці.

### ЗЯМЛЯ ГУЛЯЦЬ НЕ ЛЮБІЦЬ

*Беспрэцэдэнтнае рашэнне прыняў нядаўна выканкам Бешанковіцкага раённага Савета. Ён вырашыў канфіскаваць у грамадзяніна А.В.Скопа зямельны ўчастак плошчай 28,2 гектара, які быў раней выдзелены яму пад фермерскую гаспадарку.*

Матывацыя такога рашэння вельмі простая: фермер не апрацоўваў зямлю. Участак вернецца да свайго ранейшага гаспадара — калгаса "Ленінскі шлях".

**Уладзімір МІХНО.**

### НАШЫ ПЕРАМАГЛІ. ЗНІМЕМ ШАПКІ

*Першая беларуская экспедыцыя на Гімалаі нарэшце дасягнула жаданай мэты: 23 кастрычніка прыблізна ў 17 гадзін па мясцоваму (непальскаму) часу даволі вядомы наш альпініст 32-гадовы ўрач з Барысава Віктар Кульбачэнка падняўся на галоўную вяршыню Канчынджангі (8598 м) і ўмацаваў там сцягі Непала і Беларусі.*

Дарога каштавала нашым альпіністам гэтая перамога. 10 кастрычніка загінулі Кацярына Іванова з Іркуцка (удзельніца расійскай групы, што далучылася да беларусаў пад час узыходжання) і мінчанін Сяргей Жвірбля. На вышыні 6700 іхняя палатка была раптоўна завалена вялізнай масай снегу і лёду. У дзень узыходжання з вышыні 8300 м сарвалася і бясследна знікла балгарская альпіністка Іарданка Дзімітрава. Да гэтага часу іхнія целы не знайшлі.

Кіраўнік экспедыцыі Сяргей Новікаў вырашыў спыніць пошукі і спускацца ўніз.

**Ян ВЕРБА.**

### БРЫДЖ-КЛУБ У ГРОДНА

*Незвычайнае для нас аматарскае аб'яднанне — брыдж-клуб — з'явілася ў Гродна.*

Пакуль прыхільнікаў арыстакратычнай гульні ў абласным цэнтры няшмат — усяго два дзесяткі, — але дзверы клуба адчынены для ўсіх жадаючых.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### ДАПАМОЖАМ БРАТАМ МЕНШЫМ!

*Колькі вакол нас бяздомных сабак і кошак! Паводле звестак санітарнай службы, за мінулы год у Мінску было знішчана каля 10 тысяч бадзяжных жывёл.*

Каб дапамагчы нашым братам меншым, створана Беларускае таварыства аховы жывёл. У таварыства пакуль няма памяшкання, хоць гарадскія ўлады і абяцалі дапамагчы. Таму сябрам арганізацый даводзіцца трымаць сабак і кошак дома. Тым, хто можа даць прытулак бяздомным сабакам і кошкам, таварыства будзе аказваць матэрыяльную і ветэрынарную дапамогу, даваць кансультацыі па догляду.

**Ганна МАСЛЯКОВА.**

### МАЛАДЗЁЖНАЙ ПАЛІТЫЦЫ ТАКСАМА ТРЭБА ВУЧЫЦЦА

*Абмяркуюць праблемы рэалізацыі маладзёжнай палітыкі ў Беларусі, а таксама падзеляцца вопытам, набытым за час стажыроўкі ў Германіі, удзельнікі сустрэчы, якая адкрываецца сёння ў Мінску.*

У рамках падпісанага ў канцы мінулага года камюніке 28 беларускіх спецыялістаў атрымалі магчымасць папрацаваць у нямецкіх дзяржаўных структурах, якія займаюцца моладдзю. За гэты час яны азнаёміліся з работай сацыяльнай службы нямецкай моладзі, вырашэннем пытанняў беспрацоўя, маладзёжнай злачыннасці, падтрымкі дзяржавай маладзёжнай палітыкі.

На думку беларускіх спецыялістаў, вопыт нямецкіх калег аказаўся карысным. Ужо сёння можна выкарыстоўваць усё тое каштоўнае, што было ўбачана ў Германіі. Пра гэта і пойдзе гутарка на сустрэчы.

### Курсы валют на 8 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6560 | 6780 | 4313 | 4476 |
| "Прыор" | 6600 | 6700 | 4400 | 4470 |
| "Дукат" | 6600 | 6800 | 4350 | 4500 |

**АФІЦЫЙНА**

# ПАСТАНОВА

## *Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 1994 г. № 154*
## *АБ ПАВЫШЭННІ ПАМЕРУ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ*

***Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:***

1. Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, мясцовым органам выканаўчай улады, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, забяспечыць пераразлік заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай Указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 кастрычніка 1994 г. № 156 стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі.

2. Увесці з 1 лістапада 1994 г. для работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, даплаты (замест тых, якія дзейнічалі раней) да тарыфных ставак і службовых акладаў, разлічаных у адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай, тарыфікуемых з 1-га да 2-га разраду, — 10.000 рублёў, з 2-га да 3-га — 8.800 рублёў, з 3-га да 4-га — 7.500 рублёў, з 4-га да 5-га — 6.300 рублёў, з 5-га да 6-га — 5.200 рублёў, з 6-га да 7-га — 4.000 рублёў і па 7-му разраду — 2.700 рублёў.

Міністэрству працы перагледзець нарматыўныя акты, якія рэгулююць пытанні аплаты працы.

3. Павялічыць з 1 лістапада 1994 г. памеры дзяржаўных стыпендый студэнтам вышэйшых навучальных устаноў да 130 працэнтаў, а навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — да 110 працэнтаў мінімальнай заработнай платы.

4. Захаваць устаноўленыя пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 жніўня 1994 г. № 3 "Аб мерах па аказанню фінансавай падтрымкі асобным катэгорыям грамадзян" штомесячныя грашовыя кампенсацыі непрацуючым пенсіянерам, якія атрымліваюць працоўныя і сацыяльныя пенсіі, пенсіянерам, што працуюць у калгасах, саўгасах і на іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах; сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей; непрацуючым працаздольным грамадзянам, што даглядаюць інвалідаў 1 групы або састарэлых, якія маюць патрэбу згодна з заключэннем лячэбнай установы ў пастаянным доглядзе, ці дасягнуўшым 80 гадоў, а таксама догляд дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў; студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў (якія не атрымліваюць харчаванне); грамадзянам, што атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі, павышэнні кваліфікацыі па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

5. Міністэрству сацыяльнай абароны, Міністэрству абароны, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі з 1 лістапада 1994 г. зрабіць пераразлік пенсій, зыходзячы з новага памеру мінімальнай заработнай платы.

Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам фінансаў у тыднёвы тэрмін перагледзець памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, і памеры дзяржаўных стыпендый студэнтам і навучэнцам.

6. Павялічыць з 1 лістапада 1994 г. у 2 разы назначаныя да ўказанай даты дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку, павышаюць кваліфікацыю па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

7. Прызнаць страціўшымі сілу:

пункт 2 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 сакавіка 1994 г. № 136 "Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 8, арт. 113);

пункты 1 і 5 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 460 "Аб матэрыяльнай падтрымцы малазабяспечаных слаёў насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 17—18, арт.355);

пункт 1 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1994 г., № 481 "Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і асобных сацыяльных выплат" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г. № 19, арт.366).

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

31 кастрыніка 1994 г. г.Мінск.

# КАМЕНТАРЫЙ

## *ДА ПАСТАНОВЫ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 31 КАСТРЫЧНІКА 1994 г. № 154 "АБ ПАВЫШЭННІ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ"*

Урад Рэспублікі Беларусь праводзіць планамерную работу па падтрыманню жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 кастрычніка 1994 г. № 156 "Аб павышэнні мінімальнай заработнай платы" з 1 лістапада 1994 г. устаноўлены мінімальная заработная плата 20 тысяч рублёў і тарыфная стаўка першага разраду ў памеры 22 тысяч рублёў у месяц, а пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 1994 г. № 154 для работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, уведзены даплаты (замест раней дзеючых) да тарыфных ставак (службовых акладаў) у адпаведнасці з адзінай тарыфнай сеткай, тарыфікуемых з 1-га да 2-га разраду — 10 тысяч рублёў, з 2-га да 3-га — 8800, з 3-га да 4-га — 7500, з 4-га да 5-га — 6300, з 5-га да 6-га — 5200, з 6-га да 7-га — 4 тысячы рублёў і па 7-му разраду — 2700 рублёў.

Зыходзячы з гэтага, памер тарыфнай стаўкі, напрыклад, рабочага першага разраду з улікам даплат складзе з лістапада г.г. 32 тысячы рублёў (22 тысячы х 1,0) 10 тысяч, а рабочага чацвёртага разраду — 49420 рублёў (22 тысячы х 1,96) 6300, дзе 1,0 і 1,96 адпаведна тарыфныя каэфіцыенты рабочых 1-га і 4-га разрадаў адзінай тарыфнай сеткі.

Для работнікаў, якім устанаўліваюцца месячныя аклады і адпаведнымі пастановамі Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь, улічваючы характар і ўмовы працы, прадугледжаны павышаючыя каэфіцыенты да тарыфных ставак (прыбіральшчыкі памяшканняў і тэрыторый, апальшчыкі, дворнікі, гардэробшчыкі, падсобныя рабочыя першага разраду, ліфцёры, якія маюць тарыфны каэфіцыент 1,0) у памеры 1,1, а прыбіральшчыкі памяшканняў, якія выкарыстоўваюць дэзінфіцыруючыя сродкі пры прыбіранні туалетаў, — у 1,2, месячны аклад, напрыклад, прыбіральшчыка памяшканняў складзе 34200 рублёў (22 тысячы х 1,0 х 1,1) 10 тысяч, дзе 1,0 — тарыфны каэфіцыент, 1,1 — павышаючы каэфіцыент за ўмовы працы.

У аналагічным парадку разлічваюцца месячныя аклады іншых работнікаў, тарыфікуемых па-за разрадамі адзінай тарыфнай сеткі, каэфіцыенты якіх знаходзяцца на ўзроўні з 1-га па 7-ы разрад уключна.

Напрыклад, для аператара ЭВМ устаноўлены тарыфны каэфіцыент 2,74, які знаходзіцца паміж 6-ым і 7-ым разрадамі адзінай тарыфнай сеткі. Прымаючы ў разлік гэты каэфіцыент і размер устаноўленай урадам даплаты, месячны аклад аператара складзе 64280 рублёў (22 тысячы х 2,74) 4 тысячы.

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі, на якія пашыраецца дзеянне закона "Аб прадпрыемстве ў Рэспубліцы Беларусь", што прынялі рашэнне аб прымяненні адзінай тарыфнай сеткі і стаўкі першага разраду, зацверджанай урадам, таксама могуць прымяняць даплаты, прадугледжаныя пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 1994 г. № 154.

Пры гэтым захоўваюць сваю значнасць павышаючыя каэфіцыенты да тарыфных ставак і акладаў па тэхналагічных відах работ, вытворчасцях і галінах, зацверджаныя пастановай Дзяржкампрацы ад 21 студзеня 1993 года № 5.

У гэтым выпадку памер тарыфнай стаўкі, напрыклад, рабочага 3-га разраду, занятага ў вытворчасцях, дзе ўстаноўлены павышаючы каэфіцыент 1,2, складзе 52116 рублёў (22 тысячы х 1,69 х 1,2) 7500, дзе 1,69 — каэфіцыент 3-га разраду адзінай тарыфнай сеткі, а 1,2 — павышаючы каэфіцыент.

Пастановай Кабінета Міністраў прадугледжаны меры сацыяльнай абароны і непрацаздольнай часткі насельніцтва. У прыватнасці, у 2,6 раза павялічваюцца стыпендыі студэнтам вышэйшых навучальных устаноў і іх размер з лістапада г.г. з улікам штомесячных грашовых кампенсацый на хлеб, хлебабулачныя вырабы, малако, малочныя прадукты і дзіцячае харчаванне, устаноўленых пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 жніўня 1994 г. № 3 "Аб мерах па аказанню фінансавай падтрымкі асобным катэгорыям грамадзян", складзе 34 тысячы рублёў, а стыпендыі навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — 30 тысяч рублёў у месяц. Па-ранейшаму захоўваецца павялічаны памер стыпендый студэнтам і навучэнцам, якія маюць добрыя і выдатныя адзнакі.

У сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы практычна ў два разы павялічваюцца з лістапада г.г. памеры працоўных і сацыяльных пенсій, дапамог па беспрацоўю і стыпендый грамадзянам, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку, павышаюць кваліфікацыю па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці, дзяржаўныя дапамогі сем'ям, што выхоўваюць дзяцей.

Акрамя таго, захоўваюцца устаноўленыя вышэйназванай пастановай штомесячныя грашовыя кампенсацыі непрацуючым пенсіянерам, якія атрымліваюць працоўныя і сацыяльныя пенсіі, пенсіянерам, якія працуюць у калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах, — у памеры 8500 рублёў; сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей (на кожнае дзіця), і навучэнцам прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў (якія не атрымліваюць харчаванне) — 8 тысяч рублёў; непрацуючым працаздольным грамадзянам, якія ажыццяўляюць догляд інваліда І групы ці састарэлага, які мае патрэбу па заключэнню лячэбнай установы ў пабочным доглядзе, ці тым, хто дасягнуў 80 гадоў, а таксама догляд дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў — 8500 рублёў; грамадзянам, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі, павышэнні кваліфікацыі па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці — 7500 рублёў у месяц.

Па-ранейшаму захоўваецца 60-працэнтная даплата да мінімальных працоўных пенсій. Такім чынам, пенсіянер, якому ўстаноўлена пенсія ў мінімальным памеры, з лістапада г.г., з улікам грашовай кампенсацыі будзе атрымліваць 40500 рублёў у месяц 20 тысяч (20 тысяч х 0,6) 8500.

**МІНІСТЭРСТВА ПРАЦЫ.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### "Еўраньюс"

#### ШЫРАК ЦЭЛІЦЬ У ПРЭЗІДЭНТЫ

*Жак Шырак вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта на маючых адбыцца выбарах.*

Яго калега па партыі, прэм'ер-міністр Францыі, падтрымлівае Шырака.

#### АХВЯРЫ ПАВОДКІ

*Працягваюцца пошукі загінуўшых і прапаўшых без вестак у раёнах паўднёвай Францыі, паўночнай Італіі і Іспаніі, якія пацярпелі ў выніку моцнай паводкі.*

Паводле паведамленняў выратавальных службаў, загінула 36 чалавек, 14 чалавек прапала без вестак. Асабліва пацярпелі раёны паўночна-ўсходняй Італіі. Тысячы жыхароў засталіся без жылля, поўнасцю разбураны аўтамагістралі і чыгунка.

### "Суперчэннэл"

#### "СПРУТ" ПАЗБАЎЛЕНЫ ГАЛАВЫ

*Французская паліцыя арыштавала верхавода барселонскай мафіі Цэзара Аранга.*

Ён кантраляваў дастаўку ў Еўропу з Калумбіі наркотыкаў, якія паступалі ў першую чаргу ў порт Барселоны. Арыштавана жонка Аранга, якая таксама з'яўлялася адным з арганізатараў наркабізнесу ў Барселоне. Паліцыя заявіла, што арышт кіраўніка мафіі— адчувальны ўдар па ўсяму мафіёзнаму клану.

#### КАЛУМБІЯ РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ

*Ідзе падрыхтоўка да парламенцкіх выбараў у Калумбіі.*

Асноўная барацьба разгарнулася паміж кансерватыўнай і ліберальнай партыямі. Апошняя цяпер знаходзіцца на чале ўлады. Паводле ацэнак спецыялістаў, у перадвыбарнай кампаніі прадстаўлены шырокі спектр палітычных сіл.

#### ВЫРАТАВАЎ УЗРОСТ

*У нямецкім судзе адбылося слуханне справы былога шэфа сакрэтнай службы ГДР Эрыха Мільке.*

Мільке нясе адказнасць за гібель соцень жыхароў ГДР, якія спрабавалі перайсці граніцу і ўцякаць у ФРГ. Суд не вызначыў пакаранне для 86-гадовага старога. Як вядома, Эрых Хонекер з-за пажылога ўзросту і стану здароўя таксама пазбег пакарання.

### "Уорлднэт"

#### ЗНОЎ СТРАСЦІ ПА ФУТБОЛЕ

*У Брэмене паліцыя арыштавала 450 фанатаў з Нідэрландаў, якія прыбылі цягніком на матч Брэмен (Германія) — Ратэрдам (Нідэрланды).*

Пасля гульні раз'юшаныя фанаты наладзілі бойку на стадыёне, а затым і на вакзале. Паліцыя была вымушана прымяніць сілу, каб навесці парадак. З нямецкага боку было арыштавана 60 "паклоннікаў".

### "TV-5"

#### МІТЭРАН НЕ ХАВАЕ МІНУЛАГА

*У адным з ілюстраваных часопісаў Францыі "Match" на тытульным баку было змешчана фота прэзідэнта Мітэрана з яго пазашлюбнай дачкой Мазарын.*

Мітэран больш не хавае існаванне пазашлюбнага дзіцяці. Многія палітыкі з асуджэннем аднесліся да мінулага прэзідэнта.

#### ДАПАМОГА ПАЛЕСЦІНЕ

*Паводле вынікаў эканамічнай канферэнцыі ў Касабланцы, Еўрапейская супольнасць выдзеліла Палесціне 120 млн. даляраў для падтрымання эканомікі.*

Лідэр Палесціны Арафат выступіў гарантам стабільнасці ў рэгіёне.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

## БІЗНЕС-КЛАС

### АНУ, ЦЭНЫ, ТАРМАЗІЦЕ!

Міністэрства гандлю рэспублікі дало "дабро" на стварэнне ў Беларусі сеткі магазінаў-складаў тыпу "Кэш энд кэры", што ў перакладзе азначае "Плаці і забірай". Новая паслуга прызначана ў першую чаргу для дробных прадпрыемстваў гандлю, грамадскага харчавання, сферы абслугоўвання і накіравана на развіццё сферы прыватнага прадпрымальніцтва. Справа ў тым, што менавіта такая форма арганізацыі аптовага гандлю дае магчымасць адпускаць тавары дробнымі партыямі, з меншай нацэнкай і за кошт зніжэння сабекошту мець мінімальныя канкурэнтаздольныя цэны. Да таго ж, як сведчыць замежны вопыт, у цэлым узровень выдаткаў магазіна-склада ніжэйшы, чым у аптовага прадпрыемства, што зніжае цану тавараў на 15—20 працэнтаў.

Новая форма арганізацыі гандлю на першым этапе будзе апрабавана на некалькіх гандлёвых прадпрыемствах. Гэта мінская "Галантарэя", мінскае абласное аб'яднанне "Бакалея", упраўленне гандлю Брэсцкага аблвыканкама пры абласных аптовых базах "Дзяржгандаль", "Галантарэя", "Бакалея", аддзел гандлю і грамадскага харчавання Гродзенскага аблвыканкама пры абласной базе "Культгандаль" і Гомельскае аптоварознічнае прадпрыемства "Аблгандальсаюз".

**Святлана КАЛІНКІНА.**

### НАША ПРАДУКЦЫЯ – ЛЕПЕЙ

У гандлёвым доме "Беларусь", што ў латвійскай сталіцы, адчыніла дзверы выстава-продаж сельскагаспадарчай прадукцыі з Беларусі.

Цана на прадстаўленыя тавары была значна ніжэйшая, чым на заходнюю прадукцыю такой жа якасці і ўзору.

### "УПАКОЎКА–94"

З 31 кастрычніка па 4 лістапада ў выставачным комплексе "Мінскэкспа", што на праспекце Машэрава, праходзіла міжнародная спецыялізаваная выстаўка пад назвай "Упакоўка-94" з удзелам вядомых фірм з Германіі, Італіі, Польшчы, Швейцарыі, Фінляндыі, балтыйскіх краін, Расіі, Украіны і нашай рэспублікі.

Прадстаўленыя на выстаўцы экспанаты сведчаць, як далёка, у адрозненне ад нашых даволі шэрых па свайму знешняму выгляду тавараў, пайшоў прагрэс у гэтай галіне на Захадзе. Прэзентабельнасць тавараў лёгкай і харчовай прамысловасці радуе вока. Узоры ў рознакаляровых фарбах, самыя прывабныя формы ўпакоўкі, бутэлькі, флаконы, пачкі, аздобленыя па апошняму слову мастацкага дызайну.

Трэба спадзявацца, што і наша прамысловасць у хуткім часе дасягне лепшых сусветных аналагаў і, як вынік, беларускія тавары стануць канкурэнтаздольнымі як на рынках краін СНД, так і на ўласным.

Першыя крокі на гэтым шляху ўжо зроблены. Сярод апошніх дасягненняў айчыннай вытворчасці ў галіне ўпакоўкі трэба адзначыць разнастайныя поліэтыленавыя і поліпрапіленавыя плёнкі, плёнку поліэтыленфталат, ламініраваны кардон, паперу, поліэтыленавую сетку для фасоўкі садавіны і агародніны, машыны для вакуумнай упакоўкі мяса і каўбасы.

Паводле звестак, беларуская прамысловасць здолее ў наступным годзе выпусціць 100 такіх спецыялізаваных машын, якія ў некалькі разоў таннейшыя за адпаведныя замежныя аналагі.

На думку спецыялістаў, ужо праз год-два тавары ў па-сучаснаму аздобленай упакоўцы можна будзе ўбачыць у звычайных крамах. На выстаўцы, акрамя прэзентацыі розных форм упаковак, тары і машын па вытворчасці ўпаковак і поліэтылену, прайшоў семінар з удзелам спецыялістаў нашай рэспублікі, краін блізкага і далёкага замежжа пад назвай "Сертыфікацыя тары і ўпакоўкі ў Рэспубліцы Беларусь".

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

МІЛАСЭРНАСЦЬ

# Іх чуйнасць вострая, няглeдзячы на... слых

*Такая ўжо праўда: Бог ці Прырода, што надзялілі людзей розумам і дабрынёй, пастаянна выпрабоўваюць іх на здольнасць быць носьбітамі гэтых чалавечых пачаткаў. Можа таму ўносіцца ў наша жыццё нейкая дысгармонія і пасылаюцца анёлы–дзеці з пэўнымі хібамі псіхалагічнага і фізічнага развіцця.*

Як ні балюча, але апошнім часам такіх дзяцей становіцца ўсё больш. Сярод іх — са слабым слыхам і познааглухшыя са школы- інтэрната Віцебска, у якой знаходзіцца сёння 350 выхаванцаў, амаль на сотню больш, чым было ў 1991 годзе. Гэта якраз тыя дзеці, што няздольны дыферэнцыраваць гукі чалавечай мовы і фарміраваць праз іх паняцці. У выніку яны не толькі дрэнна чуюць, але амаль не могуць гаварыць і калі своечасова не займацца выпраўленнем хібаў, што падкінула прырода, у нашым грамадстве з'явяцца сотні і тысячы людзей, выкінутых за борт жыцця, а бліжэй да праўды — сотні і тысячы алігафрэнаў і нават ідыётаў.

— Сёння, — гаворыць дырэктар спецыялізаванай школы-інтэрната Міхаіл Уладзіміравіч Здзесеў, — многія бацькі ў роспачы, у надзеі кідаюцца да розных знахароў і экстрасенсаў. Але яшчэ не было выпадкаў, каб нехта з іх мог вярнуць слых дзіцяці. А вось урон з-за несвоечасовага накіравання да нас у школу бывае часам неапраўдана вялікі. Таму мы не рэкамендуем спадзявацца на цуд. Рэабілітацыя дзіцяці, сцвярджэнне яго ў жыцці— справа не аднаго-двух сеансаў, а патрабуе многіх і многіх гадоў працы сурдапедагогаў, дэфектолагаў, выхавальнікаў.

Вышэйназваныя спецыяльнасці — гэта аснова, на якой грунтуецца педагагічная база школы-інтэрната для дзяцей са слабым слыхам і познааглухшых. Са 100 педагогаў — 40 маюць дэфекталагічную адукацыю, 19 — вучацца завочна. Нядаўна абараніў дыпломную работу на кафедры сурдапедагогікі і лагапеды ў Мінску сам дырэктар школы.

— Стаўку робім на свае кадры, — апавядаў ён. — Бо запрасіць спецыялістаў, з-за адсутнасці жылля, сёння немагчыма. Таму другую вышэйшую адукацыю, што адпавядае профілю нашай работы, набываем самі.

Адлікам з нуля распачынаецца шматгадовая работа па станаўленню кожнага дзіцяці, што трапляе ў дашкольнае аддзяленне спецыялізаванай школы-інтэрната. Яно знаходзіцца ў асобным корпусе і знешне мала чым адрозніваецца ад звычайнага дзіцячага садка. Вось толькі не чуваць там вясёлага гоману, выкрыкаў, ды смеху. "Размова" паміж маленькімі выхавальнікамі вядзецца пры дапамозе мімікі і пальцаў. Дзеці, паколькі не чуюць, дрэнна разумеюць, значна адстаюць ад сваіх здаровых равеснікаў у развіцці, якія ў такім жа трохгадовым узросце звычайна засыпаюць дарослых шматлікімі і бясконцымі "а чаму?".Таму галоўнейшым у рабоце педагогаў і выхавальнікаў з гэтымі дзеткамі з'яўляецца самае важнае — развіццё іх мовы і засваенне элементарных паняццяў і слоў. Так, пры дапамозе дактыльнай, пальцавай азбукі іх знаёмяць з назвамі свайго адзення, са стравамі, з прыроднымі з'явамі, неабходнымі дзеяннямі. Шляхам шматразовых паўтораў педагогі і выхавальнікі дамагаюцца замацавання развіцця артыкулярнага апарату. Нягледзячы на цяжкасці са сродкамі школе пашанцавала абсталяваць камп'ютэрны клас з праграмамі лінгвістычнай скіраванасці. Так, напрыклад, уключыўшыся ў гульню: правільна выдыхаючы, правільна расчляняючы гукі, захоўваючы патрэбную танальнасць голасу, можна прайсці па лабірынту, каб "выратаваць" качаня ад паляўнічых.

— Перавага такіх камп'ютэрных гульняў, — адзначае сурдапедагог дашкольнага аддзялення Людміла Васільеўна Луцэвіч у тым, што дзіця, якое не ўспрымае мовы на слых, або ўспрымае дрэнна, можа "бачыць" свой голас. Яно вучыцца вымаўляць праз экранную карцінку, што пакідае след у яго памяці. Шляхам паўтору гульні набываюцца навыкі вымаўлення, якія ўжо замацоўваюцца. Гэта ўсё знаходзіцца і ў памяці камп'ютэра, што дае магчымасць параўноўваць набыткі ў вымаўленні.

Бясспрэчна правільна, што пры пераходзе ў першыя класы з дашкольнага аддзялення пачынаецца дыферэнцыяцыя школьная. У першым аддзяленні звычайна займаюцца дзеці, якія ў належнай ступені авалодалі навыкамі вымаўлення і маюць адпаведнае псіхічнае і фізічнае развіццё. У другім жа вучацца з больш слабым валоданнем мовы і, адпаведна, з запаволеным працэсам разумовага развіцця.

Сцвярджэнне ў жыцці дасягаецца не толькі скіраванасцю на засваенне школьнай праграмы. Чырвонай стужкай праз усе гады навучання праходзіць выхаванне падрыхтаванасці да працы. Асабліва важна гэта для тых, у каго практычна поўнасцю адсутнічае слых, хто так і не змог нармальна гаварыць і счытвае чалавечую мову з вуснаў гаворачага. Але, набыўшы і гэтыя выключна важныя для аглухшага навыкі, трэба навучыцца нешта рабіць, каб потым, пасля школы, замацавацца ў жыцці.

Арыентацыя на набыццё прафесіі — адна з важнейшых у школе. Тут ёсць швейная і сталярная майстэрні, вучаць вязаць і гатаваць ежу, практычна ўсе выпускнікі могуць адразу ж працаваць на вытворчым камбінаце горада або ў вобласці.

Праўда, апошнім часам таварыствы інвалідаў па зроку і слыху забілі трывогу. У сувязі з цяжкім эканамічным становішчам яны не толькі не могуць развіваць сваю матэрыяльную базу, нават вымушаны яе скарачаць. А гэта — пагроза для многіх маладых людзей, якія і без таго абдзелены лепшай доляй, бо для іх існуе рэальная пагроза застацца непрацаўладкаванымі.

Віцебская школа-інтэрнат трывожыцца за лёс сваіх выхаванцаў. Мо ад таго ў цяперашні школьны перыяд яна стараецца як мага больш акружыць іх увагай і цеплынёй.

— Праўда, гаворыць дырэктар М.Здзесеў, — нам не прыходзіцца разлічваць, што наша матэрыяльная забяспечанасць застанецца ранейшай. Беднае міністэрства, усё больш бяднеюць спонсары. Таму забеспячэнне школьнай і спартыўнай формамі дзяцей (за выключэннем сірот) пераклалі на бацькоў. У некаторым сэнсе перайшлі на ўласны хлеб: атрымалі сваю зямлю, набылі трактар, зрабілі цяпліцы і агароднінасховішча. Вырашчанага ўласнымі рукамі на зіму хопіць. Карміць як раней, калі была нават ікра, сёння не можам. Але гэта не бяда. Наадварот, дзеці многаму вучацца, робяцца больш прыстасаванымі да жыцця.

Цяпер самае галоўнае ў нас — ацяпленне, бо да кацельні, што абагравала школу, прыстасаваліся харомы-асабнякі тых, хто мае вялікія грошы. Вось і прыйшлося набыць лічыльнікі, каб не ўкралі цяпло ў дзяцей. Засталося іх падключыць і саграваць сваіх выхаванцаў не толькі ў прамым сэнсе, але і з поўнай аддачай дабрыні і цяпла духоўнага, паколькі нашы дзеці, як ніхто, чуйныя да дабра і цеплыні.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**



Як стала вядома, у гэтыя асеннія дні слухачы Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь не толькі штудзіруюць азы крыміналістыкі, але і знаходзяць час для сустрэч з артыстамі. Свае песні гэтымі днямі падарыла ім вядучая салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Іна Афанасьева. Доўга не змаўкалі ў актавай зале следча-экспертнага факультэта бурныя апладысменты, а потым спявачка падарыла будучым вартавым парадку свой аўтограф. Перад прысутнымі выступіў і артыст кіно і эстрады Георгій Волчак.

Фота Міхаіла БАЧЫЛЫ,

ЭКАНОМІКА

# Работа над памылкамі

Цяпер аб'яднанне "Беларускалій", як і іншыя прадпрыемствы рэспублікі, зведвае на сабе негатыўныя тэндэнцыі агульнага спаду вытворчасці. Магутнасці загружаны толькі на 40 працэнтаў. Далі аб сабе знаць рост цэн на энерганосьбіты, неплацежаздольнасць спажыўцоў.

У немалой ступені гэткі спад вытворчасці звязаны з не да канца прадуманай палітыкай дзяржавы ў пытанні экспарту калійных угнаенняў у 1989-1992 г.г. З-за прыняцця жорсткіх антыдэмпінгавых мер з боку камісіі ЕС аб'яднанне спыніла экспарт калійных угнаенняў у краіны Еўрапейскага супольніцтва. Гэта прывяло да таго, што для беларускага калію страчаны важны рынак з надзейнай плацежаздольнасцю спажыўцоў.

Таму адна з актуальных задач сёння — дабіцца перагляду антыдэмпінгавага рэгулявання на карысць вытворцаў СНД, каб мець магчымасць павялічыць аб'ёмы паставак калію ў краіны далёкага замежжа. Не менш важна цяпер аднавіць рынкі збыту ў рэспубліках СНД, вырашыць праблемы клірынгавых паставак, забяспечыць актыўную рэалізацыю калійных угнаенняў на ўласным унутраным рынку Беларусі.

Гэтыя і іншыя пытанні былі ў цэнтры ўвагі прайшоўшай нядаўна на базе ВА "Беларускалій" нарады. Яе арганізавалі Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь Міністэрства эканомікі, канцэрн "Белхімнафтапрам" з удзелам прадстаўнікоў шэрагу міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, а таксама Саюза вытворцаў калію і Міжнароднай калійнай кампаніі.

На нарадзе быў абмеркаваны ход выканання міжурадавых пагадненняў, заключаных з Расіяй, Украінай і прыбалтыйскімі рэспублікамі, па рэалізацыі калійных угнаенняў. У прыватнасці, адзначана, што пагадненні з Украінай выконваюцца не ў поўным аб'ёме. У той жа час Рэспубліка Беларусь зацікаўлена ў пастаўцы з Украіны сацыяльна-важнай прадукцыі (цукар, алей, метал і г.д.). У сувязі з гэтым прынята рашэнне даручыць Мінсельгаспраду, ВА "Беларускалій", канцэрну "Белхімнафтапрам" распрацаваць прымальны механізм тавараабмену паміж рэспублікамі.

На нарадзе таксама вырашана захаваць існуючую схему рэалізацыі калійных угнаенняў на экспарт праз аднаканальную сістэму ВА "Беларускалій".

Ураду прапанавана арганізаваць скаардынаваную работу па пытанню адмены санкцый ЕС на пастаўляемыя з Расіі, Беларусі і Украіны калійныя ўгнаенні і ўскласці гэту работу на Міністэрства знешнеэканамічных сувязей.

Разгледжаны пытанні інфраструктуры перавалкі калійных угнаенняў. Улічваючы неабходнасць яе далейшага развіцця, на нарадзе прапанавана пры заключэнні міжурадавых пагадненняў на пастаўку калійных угнаенняў у Расію, на Украіну, краіны Прыбалтыкі прадугледзець магчымасць значнага павелічэння перавалкі ўгнаенняў у марскіх портах гэтых краін.

НЕРУШ

### Праспяваем сталіцы... адыходную?

*Спецыялісты–эколагі б'юць трывогу: калі ў самы бліжэйшы час не зменіцца сітуацыя, сталіца будзе пахавана пад адходамі. А гэта можа прывесці да непрадказальных вынікаў. Толькі ў мінулым годзе на прамысловых прадпрыемствах горада выраслі горы, якія складаюцца з 376 тысяч тон адходаў. Прычым, 35 з іх асабліва небяспечныя для здароўя насельніцтва.*

Паводле прагнозаў спецыялістаў, да 2000 года колькасць адпрацаванай сыравіны пераваліць за пяць мільёнаў кубічных метраў. І хоць у горадзе сёння дзейнічае шэраг прадпрыемстваў, якія займаюцца утылізацыяй і перапрацоўкай растваральнікаў, гальванічных шламаў, люмінесцэнтных лямпаў, да гэтага часу няясна, куды дзець шыны з металакордам, ртутна-цынкавыя батарэі, не хапае і магутнасцей па перапрацоўцы адходаў драўніны.

Але самы вялікі галаўны боль гарадскіх эколагаў — будаўніцтва палігона для захавання таксічных адходаў. Яго адсутнасць непасрэдна звязана з пагаршэннем экалагічнай абстаноўкі ў раёнах буйной прамысловай вытворчасці. На гэтых прадпрыемствах пастаянна назапашваюцца таксічныя рэчывы, якія няма куды вывезці. Менавіта яны ствараюць рэальную пагрозу не толькі для здароўя працуючых тут, але ўжо і насельніцтва, якое пражывае ў раёнах з трывожнай экалогіяй. З-за высокай канцэнтрацыі прамысловых прадпрыемстваў у Мінску даволі высокі ўзровень забруджвання глебы, паверхневых і падземных вод цяжкімі металамі, якіх асабліва многа ў адходах гальванічных вытворчасцей. У гэтым годзе пытанне аб будаўніцтве комплексу па перапрацоўцы таксічных прамысловых адходаў разглядалася ў чарговы раз. На выкананне праекта выдзелена з пазабюджэтнага фонду аховы прыроды 120 мільёнаў рублёў. Але мінчан гэта зусім не суцяшае, таму што комплекс плануецца размясціць каля горада. Не згодна з гэтым і санітарная служба Мінска.

### Дыхайце свежым паветрам

*Астраўкамі чыстага паветра называюць мінчане скверы і паркі беларускай сталіцы. І ў гэтым годзе іх з'явілася ў горадзе нямала.*

Варта заўважыць, што на кожнага жыхара Мінска прыпадае 15,6 кв.метра зялёных насаджэнняў. А да пачатку наступнага года зялёны дыван памерам 16 квадратных метраў будзе "належаць" кожнаму мінчаніну. Да 2000 года ён павялічыцца яшчэ на 5 квадратных метраў.

### Адчыніце! Экалагічная міліцыя!

*На вуліцах Мінска ў хуткім часе з'явяцца супрацоўнікі санітарна–экалагічнай міліцыі.*

Мяркуецца, што яе спецыялісты наладзяць сістэматычны кантроль за станам санітарна-экалагічнага рэжыму на тэрыторыі Мінска, будуць весці прафілактычную работу па папярэджванню парушэнняў экалагічнага заканадаўства, а таксама выяўляць і прыцягваць да адказнасці тых, хто вінаваты ў забруджванні навакольнага асяроддзя.

Акрамя таго, пільнае вока новай службы возьме на кантроль работу транспарту, устанаўліваючы выкіды забруджвальных рэчываў у атмасферу, будзе вызначаць узровень шуму, які робіць электра- і аўтатранспарт. Сачыць за залпавымі выкідамі шкодных рэчываў у атмасферу прадпрыемствамі, а таксама за перавозкай смецця, лятучых, вадкіх і газападобных матэрыялаў і будаўнічых канструкцый на неабсталяваным транспарце ці на спецыяльным, але які ўсё ж парушае правілы. Прадугледжваецца, што ў поле зроку экалагічнай міліцыі трапяць палатачныя гарадкі і аўтастаянкі. Супрацоўнікі гэтай службы паклапоцяцца аб чысціні вуліц і тратуараў, ахове зялёных насаджэнняў. Словам, спраў у іх — непачаты край

**БЕЛІНФАРМ.**

*Сто артыкулаў*

# РАКАВАЯ



*ПЛАТОНАЎ Расціслаў Пятровіч. Па прафесіі — журналіст, гісторык. Доктар гістарычных навук, прафесар. Працаваў у раённым друку, партыйных органах, навучальных і навуковых установах Мінска. Мае шэраг навуковых прац па гісторыі ідэалагічнай дзейнасці, барацьбы беларускага народа супраць фашысцкіх захопнікаў, палітычных рэпрэсій 30–х гадоў. У апошні час удзельнічаў у напісанні калектыўных манаграфій "Память и боль: правда истории" (1991), "У истоков политического противостояния" (1993). Цяпер — вядучы навуковы супрацоўнік БелНДЦ дакументазнаўства, археаграфіі і архівазнаўства.*

### 1. НА РАЗДАРОЖЖЫ

Увосень 1920 г. лёс Беларусі аказаўся як бы ў фокусе працістаяння дзвюх супрацьлеглых палітычных сіл. З аднаго боку, як і раней, не была знята пагроза польскай інтэрвенцыі. Пасля рэваншу пад Варшавай польскія войскі зноў уварваліся ў рэспубліку і захапілі значную частку яе тэрыторыі. Калі яшчэ ў канцы верасня органы савецкай улады функцыяніравалі ў 19-ці паветах, то ў кастрычніку яны засталіся толькі ў 6-ці і ў Мінску. Для Польшчы цяпер было важна на прэлімінарных перагаворах аб міры, якія пачаліся ў Рызе, як мага мацней зацвердзіць атрыманую перамогу.

З другога боку, Савецкай Расіі патрэбна было любымі сродкамі дабіцца заключэння мірнага дагавора, каб утрымацца і замацаваць сваю ўладу. Апошнія акалічнасці і абумовілі шэраг уступак, у тым ліку захаванне за Польшчай заходнебеларускіх зямель. Пасля гэтага ў складзе Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ) — так у той час называлася Беларуская рэспубліка — засталося толькі 6 паветаў былой Мінскай губерні з насельніцтвам у 1,2 млн. чалавек. Спробы старшыні Белрэўкома А.Р.Чарвякова, падтрыманыя сакратаром Цэнтральнага бюро КП(б)Б В.Г.Кнорыным, паставіць у Маскве пытанне аб вяртанні ў склад ССРБ Віцебскай і Гомельскай губерняў, якія ў ходзе грамадзянскай вайны адышлі да РСФСР, поспеху не мелі.

Як тлумачыў "тэрытарыяльнае пытанне" ў запісцы ў ЦК РКП(б) ад 6 лістапада 1920 г. наркам замежных спраў РСФСР Г.В.Чычэрын, "мы яшчэ не ведаем, праз якія перыпетыі можа прайсці лёс Беларусі і павялічваць загадзя тую тэрыторыю, якая праз гэтыя перыпетыі будзе праходзіць, было б вельмі неасцярожна". ЦК КП(б)Б 11 лістапада было вымушана канстатаваць: лічыць "неабходным існаванне Савецкай Рэспублікі Беларусь у яе цяперашніх межах. Пытанне аб пашырэнні тэрыторыі Беларусі лічыць несвоечасовым".

У сярэдзіне снежня 1920 г. папярэднія ўмовы міру з Польшчай ратыфікаваў II Усебеларускі з'езд Саветаў. Ён прыняў дадаткі да Канстытуцыі ССРБ, па якіх Беларусь была як быццам незалежнай рэспублікай і адначасова састаўной часткай РСФСР. Усе яе органы ў галіне агульных мерапрыемстваў павінны былі падпарадкоўвацца адпаведным расійскім камісарыятам. Пэўная свабода захоўвалася толькі ў галіне вырашэння пытанняў мясцовага жыцця, у якіх яны кіраваліся рашэннямі ЦВК і СНК Беларусі. Гэта азначала, што абвешчаная ў другі раз у ліпені 1920 г. незалежнасць на справе аказалася ўрэзанай, а ваенна-палітычнае становішча няўстойлівым, бо тэрыторыя рэспублікі і пасля папярэдняга мірнага дагавора заставалася зонай ваенных дзеянняў.

У крызіснай сітуацыі, што склалася ў выніку эканамічнага бязладдзя, калі рэальнасць набыла пытанне наогул аб далейшым існаванні рэспублікі, яе партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва не бачыла іншага выйсця, як паслухмяна выконваць усё тое, што зыходзіла ад ЦК РКП(б). Кіраўніцтва ССРБ у той час складалі ў сваёй большасці людзі, закінутыя вайной з розных рэгіёнаў Расіі. Захопленыя ідэяй сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, яны падыходзілі да прынцыпаў інтэрнацыяналізму са спрошчаных, аднабаковых пазіцый і былі не ў стане правільна зразумець патрэбы беларускага насельніцтва. Былыя работнікі Аблвыканкамзаха, якія па-ранейшаму трымалі ў сваіх руках кіруючыя пасады, усяляк імкнуліся пазбавіцца ад беларусаў-камуністаў.

Крызісную ваенна-палітычную сітуацыю спрабаваў выкарыстаць у сваіх інтарэсах урад Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), які знаходзіўся ў Коўне. Яго прэм'ер В.У.Ластоўскі ў вырашэнні "беларускага пытання рабіў стаўку на краіны Антанты, спадзеючыся на разуменне імі ўсіх складанасцей праблемы. Нечакана ён прапанаваў Ю.Пілсудскаму ідэю "адзінага фронту" супраць бальшавікоў і Саветаў на ўмовах прызнання незалежнасці беларускай дзяржавы ў федэрацыі з Польшчай. Той, выказаўшы згоду, стварыў у Варшаве свой "беларускі ўрад", але... без Ластоўскага. У пачатку лістапада 1920 г. гэты "ўрад" выехаў у Вільню. Адсюль меў намер перабрацца ў Мінск, дзе, у выпадку, як чакалася, хуткага захопу яго палякамі, меркаваў абвясціць сваю дэкларацыю.

У адказ ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) заявіў аб разрыве з урадам БНР, які лічыўся эсэраўскім. Не ўвайшлі эсэры і ў Белрэўкам, парваўшы тым самым кампраміс, дасягнуты з КП(б)Б у часе сумеснай падпольнай і партызанскай барацьбы супраць польскай акупацыі. Зыходзячы з ідэі "незалежнай Беларускай працоўнай сацыялістычнай рэспублікі", эсэры не прызналі ўмоў рыжскага пагаднення, адстойвалі шматпартыйнасць, пры якой яны і камуністы былі б на роўных, у аснову сацыяльных пераўтварэнняў клалі прынцып кааперавання.

Яшчэ адзін погляд на шляхі выхаду з крызіснай сітуацыі быў выказаны ў звароце групы прадстаўнікоў беларускіх сацыялістычных партый да ўрада БНР, Белрэўкама, у III Інтэрнацыянал, Цэнтральныя камітэты БПС-Р, КП(б)Б, сацыял-дэмакратаў і сацыялістаў-федэралістаў, які прыняў прыватны сход у Коўне 30 снежня 1920 г. Складальнікі звароту рабілі спробу высветліць праблему незалежнасці ў палітычным, гаспадарча-эканамічным і дзяржаўна-стратэгічным аспектах, з улікам выгод, якія незалежнасць дае як для Беларусі, так і для савецкай Расіі.

Такім быў палітычны фон, на якім паявіўся дакумент са сваім бачаннем складанай сітуацыі і шляхоў выхаду з яе, падрыхтаваны групай беларусаў-камуністаў у КБ(б)Б. У 20-я гады яго ведалі як "Заяву 32-х". Яна мела дастаткова акрэсленыя рысы пэўнай платформы нацыянальнага адраджэння ва ўмовах пераходу ад грамадзянскай вайны да мірнага будаўніцтва.

### 2. МЭТА — РЭСПУБЛІКА, ІДЭАЛ — УЗОРНАЯ

У канцы 1920 — пачатку 1921 гг. Беларускім аддзелам Наркамасветы ССРБ, які ўзначальваў П.В.Ільючонак, збіраліся сходы беларусаў-камуністаў Мінска. На іх абмяркоўваліся пытанні нацыянальна-культурнага будаўніцтва, палітычнае і эканамічнае становішча рэспублікі. Пазней у партыйных дакументах, паказаннях удзельнікаў сходаў сцвярджалася, што яны насілі нелегальны, фракцыйны характар. Аднак арганізатар іх, Ільючонак, сцвярджаў іншае:

"1. Сходы праходзілі зусім афіцыйна, з асвятленнем кожны раз у газеце, з запрашэннем прыходзіць усім камуністам-беларусам.

2. Гэтыя сходы праходзілі з ведама ЦБ і сакратара ЦБ тав.Кнорына. (Калі мне давялося гаварыць з т.Кнорыным аб сходах камуністаў-беларусаў, то ён сказаў, што прыме меры, каб на гэтыя сходы хадзілі ўсе адказныя камуністы-беларусы аж да тав.Чарвякова."

Далей Ільючонак піша: "На адным з гэтых сходаў было вырашана звярнуцца ў ЦК РКП са скаргай, што ЦБ Кампартыі Беларусі вядзе няправільную лінію ў беларускім пытанні. Праект гэтай заявы да наступнага пасяджэння павінна была выпрацаваць і прадставіць сходу вылучаная камісія на чале са мною. Нехта навёў на думку, што трэба пайсці да Бурбіса (беспартыйнага). Я не памятаю, з кім пайшлі да яго ў Наркамзем... Дамовіліся, што на наступны дзень пасля таго, як ён азнаёміцца з ім, абмяркуем і адрэдагуем. На наступны дзень пачалі і рэдагаваць".

Аб удзеле А.Л.Бурбіса ў падрыхтоўцы тэксту "Заявы" гаворыцца і ў Дакладной запісцы ў прэзідыум і парткалегію ЦК ВКП(б) "Аб сувязі асобных членаў КП(б)Б з нацдэмаўскай контрэвалюцыйнай арганізацыяй і аб антыпартыйных групоўках у КП(б)Б", падпісанай старшынёю ЦКК КП(б)Б А.Я.Калініным і сакратаром парткамісіі ЦКК А.Б.Рыскіным 22 лютага 1931 г.:

"Праявіўшы незадавальненне палітыкай партыі ў нацыянальным пытанні, яны ідуць далей сходаў, складаюць антыпартыйны фракцыйны дакумент за подпісам 32-х, які фактычна з'яўляецца іх платформай, дзе пытанні ставяцца выключна ў нацыянал-дэмакратычным і эсэраўскім разуменні. Гэты дакумент, як устаноўлена, фактычна напісаны Бурбісам, "стопрацантовым нацдэмам".

Удзельнік сходаў І.П.Каранеўскі ў заяве ў ЦКК КП(б)Б ад 8 студзеня 1931 г. пісаў: "Усе прысутныя на пасяджэнні падпісалі гэту заяву, у тым ліку і я. Стаялі подпісы 32-х камуністаў... Ільючонак тады сказаў, што заяву гэту ён перадасць у ЦБ КП(б)Б, а копію пашле ў Палітбюро ЦК РКП(б)". Сам Ільючонак у паказаннях адзначаў, што ў Маскву быў адпраўлены адзін экземпляр, аднак па незразумелых прычынах у архіў ЦК РКП(б) не трапіў. Як высветлілася, зварот у ЦК РКП(б) усё ж такі трапіў і сёння знаходзіцца ў Расійскім цэнтры захоўвання і вывучэння дакументаў найноўшай гісторыі. Толькі адказаць аўтарам не палічылі патрэбным.

Той экземпляр, пра які ўпамінаў Каранеўскі, падпісаны 1 лютага 1921 г. і прызначаўся для ЦБ КП(б)Б. Поўная яго назва "Доклад ЦБ Компартии Белоруссии. Копия: ЦК РКП(б). От группы белорусов-коммунистов". Пад тэкстам подпісы 32-х камуністаў з нумарамі іх партыйных білетаў. Сярод падпісаўшых П.Ільючонак, С.Булат, М.Кудзелька (Чарот), А.Кудзелька, І.Каранеўскі і інш. (частка подпісаў зроблена неразборліва). Гэта і ёсць "Заява 32-х". Экземпляр у ЦК РКП(б) пад назваю "Докладная записка" датаваны 14 студзеня (захоўваецца і ў Нацыянальным архіве рэспублікі). Пад ёю подпіс: "По полномочию группы ответственных белорусских коммунистов А.Л.Бурбис". Гэтую дакладную запіску з інфармацыйнай даведкай (аб гістарычным мінулым, палітычным і гаспадарчым стане, нацыянальна-вызваленчым руху на Беларусі і першых кроках савецкай улады ў рэспубліцы) і ўласным лістом да У.І.Леніна Бурбіс адвёз у Маскву і перадаў у сакратарыят Леніна. "Если препровождаемая к Вам докладная записка, - пісаў Бурбіс, звяртаючыся да У.І.Леніна, — будет способствовать столь необходимому для советского строительства оздоровлению атмосферы в крае, я буду считать исполненным свой революционный долг как перед пролетариатом и крестьянством Белоруссии, так и всей РКП".

"Докладная записка" ў ЦК РКП(б) і "Даклад" у ЦБ КП(б)Б тэкстуальна супадаюць амаль цалкам. Розніца ў тым, што ў "Докладной записке" ёсць прамая, нічым не завуаліраваная, як у "Дакладзе", крытыка дзеянняў тагачасных кіраўнікоў рэспублікі, названых "прышлым элементам" (Мяснікоў, Кнорын, Ландар, Крывашэін, Пікель, Рэйнгольд). У ёй няма раздзела аб культурным адраджэнні, праблемы якога ў "Дакладзе" прадстаўлены даволі шырока. У "Дакладной запісцы" палажэнні, якія абгрунтоўваюцца, больш дакладна сфармуляваны і апрацаваны стылістычна.

Сутнасць прапануемых дакументаў заключаецца ў імкненні зрабіць Беларусь узорнай савецкай рэспублікай, якая б была прыкладам не толькі для жыхароў Заходняй Беларусі, падштурхоўваючы там працэсы ўз'яднання, але і для народаў сумежных буржуазных дзяржаў. Сёння, аднак, важна не столькі агульная ідэалагічная афарбоўка, колькі канкрэтны эканамічны, палітычны, культурны змест, палажэнні, якія аўтары вызначаюць як умовы паўнакроўнага развіцця беларускай дзяржаўнасці.

